Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 11 (63) | Вільня, 17-га траўня 1935 г. | Год 3-ці.

# Сьмерць Маршалка Язэпа Пілсудскага.

## У нядзелю, 12 траўня, а 20 гадз. 45 м. у Варшаве, у Бэльвэдэры, памёр Маршалак Язэп Пілсудскі.

Таінства прычашчэньня паміраючы прыняў з рук кс Уладыслава Карніловіча. Хвароба Маршалка разьвівалась ужо ў працягу некалькі месяцаў. Прыбыўшы з Вены самалётам проф. Вэнкебах і др. Антон Стэфаноўскі прызналі рак жалудка і печані. Раптоўнае пагоршаньне наступіла 11 траўня. Сільны крывацёк у жалудку выклікаў сьпярша аслабленьне дзейнасьці сэрца, а пасьля і сьмерць.



### Апошняя воля Маршалка

Яшчэ некалькі гадоў назад Маршалак Пілсудскі выявіў сваім блізкім апошнюю волю на прыпадак сьмерці.

Згодна з ёю мозг Памёршага павінен быць адданы вучоным для расьледваньня, сэрца — гораду, з якім найбольш быў зьвязаны пры жыцьці г. зн. Вільні і пахавана каля магілы Яго маці, а цела — перавезена ў Кракаў і пахавана ў Вавэлі.

### Уся Польшча ў жалобе.

Сьмерць Маршалка Пілсудскага была для ўсёй Польшчы нечаканай. Шмат хто ведаў аб хваробе Маршалка, але ніхто не спадзяваўся, што так хутка наступіць сумная разьвязка. Гарады ўсёй Польшчы пакрытыя жалобай. У магазынах выстаўлены партрэты Памёршага ў чорных рамках. Рух на вуліцах вялікі, але вычуваецца непакой і моцнае прыгнечаньне. Тэатры і кіны ўсе зачынены. Музыкі абсолютна ня чуваць. У Вільні, 14 г. м., а 9 гадз. 30 мін. адбыліся ў сьвятынях усіх веравызнаньняў паніхіды, у якіх узяло ўдзел амаль усё віленскае грамадзянства.

У ўсіх дзяржаўных і публічных інстытуцыях адбываліся ўрачыстыя жалобныя паседжаньні.

Адыйшоў з гэтага сьвету, асірочваючы ня толькі сваю сям'ю, але адначасна й увесь Польскі Народ — усю Польшчу, —

**Тварэц яе незалежнасьці, сілы й дзяржаўнай магутнасьці — МАРШАЛАК ЯЗЭП ПІЛСУДСКІ.**

Памёр бязумоўна вялікі чалавек з цьвёрдым характарам і жалезнаю воляй. Памёр найслаўнейшы Польскі Народны герой і правадыр Польскага Народу. З яго імем неразлучна зьвязана гісторыя адраджэньня Польшчы. Ягоны высокі аўторытэт, Ягонае вычуцьцё Польскае дзяржаўнае рацыі былі тымі вогнішчамі сілы і энэргіі, пры помачы каторых Палякі здолелі перакінуць мост праз 120-летні пэрыяд свае няволі ды навязаць нітку да сваіх мінулых дзяржаўных традыцыяў.

Веліч постаці Язэпа Пілсудскага бачыла ўсё жывое сучаснае пакаленьне. Тытанічным высілкам свае мысьлі, волі і энэргіі стварыў Ён для Польскага Народу ўсё тое, чым гэты народ цяпер жыве і дыша — стварыў Незалежную Вольную Польскую Рэспубліку, скінуўшы кайданы векавое няволі й паняверкі.

Нічога дзеля гэтага дзіўнага, што перад Яго труною сёньня пахіліліся галовы ня толькі Яго прыяцеляў і палітычных аднадумцаў, але й ворагаў.

Замкнуў на векі свае ўдумлівыя й праніклівыя вочы чалавек, каторы мусіць быць пастаўлены ў адзін рад з тымі Вялікімі гэтага сьвету, якія кіруюць лёсамі ўсяго зямнога клубу; адыйшоў назаўсёды ад нас Той, Каторы, вядучы жорсткую барацьбу, за вызваленьне свае Бацькаўшчыны, разумеў вызвольныя імкненьні й другіх паняволеных народаў, перастала біцца сэрца ў Таго, Хто разумеў неабходнасьць супольнай барацьбы ўсіх паняволеных народаў; ня жыве Той, Каторы, ўступаючы ў 1919 г. з польскім войскам у Вільню, першы кінуў кліч супольнай барацьбы: **„За нашую і вашую вольнасьць"!**, заклік да згоднага сужыцьця польскага й беларускага народаў: **„Як вольных з вольнымі, як роўных з роўнымі"!**

І хоць гэтай ідэі — ідэі фэдэрацыі Польскага й Беларускага Народаў Маршалку Пілсудскаму ня суджана было зьдзейсьніць, то аднак верым, што яна не перастала жыць у сэрцах яго спадчыкаў, у душах узгадаванага Ім маладога пакаленьня.

**Мы павінны зрэалізаваць яе супольна з тымі, каторыя сёньня прысягаюць над сьвежай магілай Пакойнага споўніць Яго завяшчаньне, б-ож дух Маршалка Пілсудскага не памёр — ён жыве й жыць будзе!**

Далучаючыся да суму, які агарнуў у гэную цяжкую хвіліну Польскае Грамадзянства, **мы беларусы перасылаем гэтым шляхам Польскаму Народу шчырыя словы спагаду з прычыны сьмерці Яго Вялікага Сына — Маршалка Язэпа Пілсудскага.**

# Адозва Прэзыдэнта Рэспублікі

## Да Грамадзянаў Рэспублікі!

*Памёр Маршалак Язэп Пілсудскі. З вялікім высілкам свайга жыцьця будаваў Ён сілу ў Народзе. Геніем розуму, цьвёрдым высілкам волі ўваскрасіў Дзяржаву. Вёў яе да адраджэньня ўласнае магутнасьці, да вызваленьня сілаў, на якіх абапрэцца будучыня Польшчы. За непамерна вялікую сваю працу змог Ён аглядаць нашую Дзяржаву, як жывы твор, здольны да жыцьця, да жыцьця прыгатаваны, а армію нашу акрытую славай пераможных сьцягоў.*

*Гэты найвялікшы на цэлым прасторы нашай гісторыі чалавек браў сілу свайго духа з мінуўшчыны, а надлюдзкім напружаньнем думкі адгадваў будучыя шляхі. Не сябе там ужо бачыў, бо даўно адчуваў, што яго фізычныя сілы ўжо канчаюцца. Шукаў і вучыў людзей самастойнай працы, на якіх мог-бы апаперціся цяжар адказнасьці.*

*Перадаў народу спадчыну думкі, якая-б дбала аб гонары і магутнасьці Дзяржавы. Гэты Яго тэстамэнт, нам жывым запісаны, маем прыняць і выканаць. Хай жалоба і боль паглыбяць сярод нас зразуменьне нашай—цэлага народу адказнасьці перад Яго духам і перад будучымі пакаленьнямі.*

Прэзыдэнт Рэспублікі

*І. МОСЬЦІЦКІ.*

Варшава, Замак. Дня 12 мая 1935 г.

## Заграніца аб сьмерці Марш. Я. Пілсудскага

**Парыж**. З прычыны сьмерці Маршалка Пілсудскага ўсе францускія часопісі зьмяшчаюць шырокія артыкулы аб дзейнасьці Маршалка, падчырківаючы яго вялікасьць і страту, якую панясла Польшча.

На ўсіх урадовых і публічных будынках, а таксама францускіх пасольствах і амбасадах вывешаны сьцягі, апушчаныя ў знак жалобы да паловы машту.

**Бэрлін**. Яшчэ больш шырака, чым у Францыі, апісываецца вестка аб сьмерці Маршалка Пілсудскага ўсімі нямецкімі часопісямі на першых іх старонках. Усюды падчырківаецца, што Польшча страціла ў асобе Маршалка свайго найвялікшага сына і нацыянальнага героя, які ўсё сваё жыцьцё прынёс у ахвяру Бацькаўшчыне.

Уся Нямеччына пахіліла сьцягі над труною вялікага чалавека. У Бэрліне ў касьцёле сьв. Ядвігі адбудзецца паніхіда, у якой возьме ўдзел канцлер Гітлер. Канцлер і сябры ўраду будуць насіць жалобу, пакуль не адбудуцца хаўтуры. Таксама канцлер Гітлер выдаў жалобнае распараджэньне, абавязваючае паводле пратаколу пры сьмерці галавы дзяржавы.

Тэлефон між Варшавай і Бэрлінам настолькі перагружаны, што для мінутных перагавораў прыходзіцца чакаць некалькі гадзін

**Масква**. З няменшым спачуцьцём падавалася вестка аб сьмерці Маршалка Пілсудскага савецкімі газэтамі. У зьвязку з гэтым Сталін сказаў праз радыё прамову, падчырківаючы вялікія заслугі памёршага. Савецкі ўрад адбыў урачыстае жалобнае паседжаньне, на якім ушанавалі памяць памёршага ўстаньнем і хвілінаю цішыні.

**Лёндон.** Англійскія газэты памясьцілі вестку аб сьмерці Маршалка Пілсудскага на першых старонках. У некаторых газэтах паявіліся ўжо нэкролёгі. Усюды падчырківаюцца заслугі Маршалка для Польшчы.

**Прага.** Вестку аб сьмерці Маршалка Пілсудскага падало Чэхаславацкае радыё, пасьля чаго ў знак жалобы быў адыграны хаўтурны марш Шопэна. На гэтым радыё-перадача была скончана.

Урады *вэнгерскі*, *аўстрыяцкі*, *швэцкі*, *латвійскі*, *румынскі* і інш. пераслалі на рукі Прэзыдэнту Польскае Рэспублікі і прадстаўнікам Польскага ўраду тэлеграмы, выражаючыя спачуцьцё з прычыны сьмерці Маршалка Пілсудскага.

## Сягоньня слухаем радыё!

На Вялікай вуліцы, дзе знаходзіцца кіна „Пан“, у рэстаранах за шклянкай гарбаты, дзе ёсьць радыё-апараты, у знаёмых, у сябе ў хаце, мы слухаем сягоньня радыё... Бо сягоньня пяе беларускі хор.

Плывуць песьні, удзраюцца ў маленькі мікрафон і выбягаюць на ўвесь сьвет, у прасторы, дрыжаць над многапакутным нашым краем І ня ведае наш беларускі селянін, які тварыў гэтыя песьні, што над ім, у паветры, дрыжыць яго сум, яго радасьць, запісаныя чулымі людзьмі... Беларускі хор гр. Рыгора Шырмы...

Солё гр. Кляўдыя Шырма... Тлумачэньне грам. Вэнслаўскі... Акампанімэнт праф. К. Галкоўскі...

Пабеглі пальцы па клявішах. Нэрвовыя, тонкія пальцы. А на двары непагода. Шэрыя хмары снуюцца па небе і дурэе на шыбах вясеньні дождж. А за хмарамі разрываюцца такія радасныя, ласкавыя просьвіты. То паважна, панура рассыпаюцца сумныя гукі, то разьліваюцца, таюць у гэтай вясеньняй непагодзе.

Пчолачка зазьвінела, мядок у бары шукаючы, удовачка заплакала, трэскі на двары зьбіраючы ..

А вось жнеі ідуць, як раёк... У пана мядок для жонкі, віно для дачкі, а для жнеяк — гарэлка горкая...

Перапёлка... ты ня ві гнязьдзечка блізка пры дарозе... Пастушкі пабачаць, яечкі заберуць...

Хочацца плакаць... хапае за сэрца сумная родная песьня...

Але не! Хай у вачох нашых ня сьлёзы будуць, а вера, што ня згінем мы, будзем жыць, бо — песьню маем! Мы сягоньня слухаем радыё... І ў канцы чуем, што гэта пялі мы, беларусы. Бо здавалася ўвесь час, што гэта ня мы, але для нас.

Дзякуй і за гэта...

*Радыё-слухач.*

## Магчымасьці нашае прэсы

У адным з папярэдніх нумароў „Роднага Краю“ была намі парушана справа беларускае прэсы. Быў там зроблены вывад, што прэса наша мае тыя ці іншыя заганы. Зьвяртаючы больш увагу на газэтную справу, мы-б змаглі выдатна пашырыць магчымасьці нашае прэсы. Як вялікія аднак гэтыя магчымасьці?

Беларуская газэта ў сучасны мамэнт ідзе перадусім на вёску. Гэта і зразумела, бо-ж большыя месты наагул, паза некаторымі выняткамі, выяўляюць яшчэ даволі слабую бел. нацыянальную сьвядомасьць. Ды і па ліку сялянства складае ў нас пераважную большасьць насельніцтва. Такім чынам сялянства зьяўляецца галоўным падпішчыкам беларускае газэты.

Калі-ж мы глянем цяпер на варункі, у якіх знаходзіцца селянін, то пабачым, што час для чытаньня газэты ў яго не заўсёды аднолькавы. Улетку сялянства, змушанае інтэнсыўна працаваць на полі, мае найменш часу.

З гэтымі абставінамі трэба нашай прэсе лічыцца, і тады, калі газэта пасылаецца на вёску ўзімку, асабліва глядзець за пляновасьцю газэтнага матэр'ялу.

У сувязі з вышэй сказаным знаходзіцца і пытаньне характару газэты. Характар нашае прэсы мусіць быць перадусім популярна-народны. Некаторыя беларусы ў сваім часе хацелі выдаваць штодзенную газэту, якая мела-б характар т. зв. „бруковых“ газэт (на падабенства вядомых жыхарам Вільні „Głosu Wilna“, „Wieczoru Wilna“ і т. п.). Магчыма, што гэткая прэса, дастасаваная да інтарэсаў і зацікаўленьняў гарадскога жыхарства, якое ў большасьці сваёй зьяўляецца (здэнацыяналізавана) беларускім, мела-б вялікае значэньне ў беларусізацыі нашых гарадоў. Магчыма, што такая прэса, знайшоўшы «супольную мову» з спольшчаным або зрусыфікаваным беларускім гарадзкім насяленьнем, значна абмежыла-бы продаж і пашырэньне польскіх „брукоўцаў“. Аднак, калі маем на ўвазе прэсу, прадзначаную для вёскі, мусім мець на ўвазе і яе інтарэсы і патрэбы.

Для вёскі трэба спэцыяльна апрацоўваць газэту. Нельга, прыкладам, падаваць у такую прэсу газэтнага „сыр'я“, як дэпэшаў тэлеграфічных агенцтваў, прамоваў in extenso і т. д. Трэба матэр'ял апрацоўваць, даючы вёсцы агляд галаўнейшых палітычных выпадкаў, агульныя пытаньні палітычнага, культурнага жыцьця.

Перадусім трэба звярнуць увагу на беларускую справу і сельскую гаспадарку. Калі ў нас падымецца сельска - гаспадарчая культура, тады можа будзе гаварыць і аб штодзеннай газэце для вёскі.

Нельга яшчэ не адзначыць слабую прапаганду нашае прэсы. Ні ў вадным кіёску, ні на аднэй станцыі мы не пабачым у продажы беларускую газэту. Перадусім гэта датычыць мястэчковых кіёскаў, дзе ў часе кірмашоў і targовых дзён сялянства купляе газэту. Розныя „Русскія Словы“, „Наше Время“ і т. п. газэты можна пабачыць у кіёску. Не пабачым толькі беларускай газэты.

Пара на гэта зьвярнуць увагу рэдакцыям нашых газэт!

*Д.*

## Пільная справа.

Часта прыходзіцца чуць, што ў Вільні нельга дастаць тае ці іншае беларускае кнігі. Нашыя кнігарні маюць ня ўсе папярэднія беларускія выданьні, ня кажучы ўжо аб кнігах, якія распраданыя або зьяўляюцца бібліяграфічнай рэдкасьцю. Публіка, якая хацела-б пазнаёміцца з беларускай літэратурай, ня мае для гэтага магчымасьці па прычыне адсутнасьці ў Вільні беларускай публічнай бібліятэкі. Не ў малым клопаце знаходзіцца вучнёўская моладзь, якая ня можа ў хуткім часе прачытаць тыя ці іншыя творы, а часта й наагул ня можа дастаць нейкай кнігі. З новай кніжкай, якая выходзіць у сьвет, беларускі чытач часта знаёміцца праз год або два пасьля яе выхаду.

Спробы зарганізаваць публічную беларускую бібліятэку ўжо былі і нават пэўны час такая бібліятэка існавала. У сучасны мамэнт у Вільні шырэйшая публіка пазбаўлена магчымасьці чытаць пабеларуску.

На гэтым мы бязумоўна шмат трацім. Шмат ёсьць у Вільні людзей, якія маглі-б быць прыцягнуты да актыўнай беларускай работы, аднак ня маюць яшчэ належнага ўсьведамленьня. Кніга мае вялікае ўсьведамляючае значэньне.

Шмат бэлетрыстычнай літэратуры ў нас, зразумела, ня знойдзецца. Перадусім повесьць і раман яшчэ ў нас займе вельмі мала месца на бібліятэчных полках. Усё-ж, калі-б мы сабралі ўсю беларускую літэратуру, то бібліятэка была-б саліднай.

У Вільні, праўда, існуюць беларускія бібліятэкі пры розных установах і арганізацыях. Ёсьць бібліятэка Бел. Навук. Т-ва (яшчэ дагэтуль неяк слаба функцыянуючая), бібліятэка Інстытуту Бел. Гаспадаркі і Культуры (знаходзячаяся яшчэ ў стадыі арганізаваньня), бібліятэка Бел. Студэнскага Саюзу (няпоўная і наагул малая), бібліятэка Т-ва Прыяцеляў Беларусазнаўства (заложаная толькі ў прошлым годзе) і інш. Усе гэтыя бібліятэкі ня могуць задаволіць шырэйшую чытаючую публіку, бо маюць або навуковы характар, або яшчэ няпоўныя, або абмяжоўваюць аб'ём карыстаньня толькі да сяброў тае арганізацыі, пры якой яны існуюць.

Па нашай думцы трэба было-б усім існуючым бел. арганізацыям шляхам паразуменьня стварыць Публічную Беларускую Бібліятэку ў Вільні. На пачатак можна было-б дастаць кніг са складу б. „Бел. Выдавецкага Т-ва“, які знаходзіцца пры Беларускім Музэі. Паступова бібліятэка папаўнялася-б. Маглі-б гэтую справу ўзяць на сябе і бел. кнігарні або беларускія студэнты. Пару чалавек знайшло-б працу, а бібліятэка, трэба думаць, аплачывала-б сябе. Гэта пільная справа і зусім магчымая.

*Д.*

## Сталін аб... значэньні чалавечае асобы.

Як ведама, дасюль у бальшавіцкай практыцы чалавечая асоба зводзілася на ноль. Масы, колектывы—вось нядаўны кумір бальшавізму.

І вось офіцыяльная савецкая агенцыя ТАСС шырока публікуе сэнсацыйную прамову Сталіна, дзе ён крыху раскрывае ўнутрыпартыйную, закулісную, сказаў-бы той, барацьбу па пытаньню аб колектывізацыі сельскае гаспадаркі і індустрыялізацыі вялізарнае краіны земляробаў.

Крута павяртае Сталін і бальшавіцкі пагляд на чалавечую асобу.

У пачатку прамовы дыктатар Савецкага Саюзу заяўляе, што пры абгаворы дасягненьняў у СССР, а асабліва пры ацэнцы ўдачаў па індустрыялізацыі і сельскай гаспадарцы праз меру пераацэньваецца роля і значэньне кіраўнічых асобаў; ім прыпісваюцца ўсе ўдачы.

— Гэта і дурната і няпраўда, — кажа Сталін. — З другога боку роля звычайнага работніка несправядліва пазбаўляецца ўсякага значэньня. Гэткая недаацэнка значэньня *асобных адзінак* работніцкае масы ёсьць грунтоўнаю памылкаю. Мы атрымалі паўзруйнованую і галодную краіну. Нашаю задачаю было стварыць аснову для часовае прамысловасьці. Пытаньне было пастаўлена ў катэгарычнай форме: або ўдасца ў найкарацейшы срок абярнуць краіну ў магутную дзяржаву, з якою лічыліся-б ува ўсім сьвеце, або зноў, у выпадку няўдачы, абярнуць яе ў забаўку імпэрыялістычных дзяржаваў. Асабліва сільным быў тэхнічны голад, ад якога цярпеў СССР. Існавалі ўсяго толькі слабыя прадпасылкі дзеля стварэньня сільнай прамысловасьці (індустрыі). Неабходна было пайсьці на вялікія ахвяры і ўшчамленьні ў шмат якіх галінах. Апрача таго патрэбны былі сільныя нэрвы, настойлівасьць і цярплівасьць. Апошняя была далёка не ўва ўсіх партыйных дзеячоў. Большая часьць

з іх стала на той пункт гледжаньня, што індустрыялізацыя і колектывізацыя ня можа ўратаваць краіны, што работніка трэба сьпярша прыапрануць і даць яму найнеабходнейшае для жыцьця.

Сталін, крытыкуючы гэткі пагляд, кажа, што запраўды можна было даць народу ўсё, што звонку ўпрыгожвае жыцьцё, але гэтым ня была-б забясьпечана будучыня краіны. Наадварот, яна была-б пастаўлена пад вялікую пагрозу, бо калі-б савецкі саюз застаўся бяз зброі, дык ён ня меў-бы цяжкае індустрыі, ня меў бы трактараў, баявых аэрапланаў і танкаў.

— Партыйныя дзеячы, — прызнаецца Сталін,—ня толькі не абмежаваліся аднэю крытыкай, яны *пагражалі паўстаньнем унутры партыі і проці цэнтральнага камітэту ды часта гразілі нам кулямі...*

— Цяпер,—кажа Сталін,— няма больш тэхнічнага голаду ў СССР. Цяпер край мае і цяжкую індустрыю, і змэханізаваную сельскую гаспадарку, і добра азброеную армію, але ў Сав. Саюзе *надыходзіць новы голад.* Гэты голад дае сябе адчуваць у недастачы кваліфікованых работнікаў, якія апанавалі-б створаную тэхніку. Раней казалі —тэхніка рашыць усё. Гэты лёзунг змусіў нас скіраваць усе сілы на стварэньне магутнае тэхнічнае асновы, але абстрактная тэхніка мёртвая. Толькі тэхніка, над якою ўладарствуе чалавек, можа тварыць цуды. Калі-б савецкі саюз меў даволі работнікаў, якія апанавалі-б створаную тэхніку, дык рэзультаты пабольшалі-б у 3-4 разы. Калі-б гэта было так, дык *не існаваў-бы і бяздушны бюракратычны пагляд на асобу.* Стары лёзунг „тэхніка рашае ўсё“ пара скасаваць і новым лёзунгам павінна быць—„усё рашае чалавек“. Людзі з гэтага часу наш самы каштоўны капітал!— трубіць Сталін, пасьля таго, як шлях свайго існаваньня бальшавізм замасьціў мільёнамі трупаў ня іншых якіх-небудзь істотаў, а людзей. *С.*

# Л. Мэнке на пятнічніку.

10-га гэтага траўня на пятнічніку беларускае інтэлігенцыі ў Вільні цікавую лекцыю чытаў аб Саветах, уцёкшы адтуль Лявон Мэнке.

Лектар, вярнуўшыся з чэскае Прагі ў Вільню ў часе разрастаньня С.-Р. Грамады, вядомы быў сваімі крайнімі марксыцкімі выступленьнямі сярод студэнскай нашай моладзі, а пасьля ліквідацыі Грамады, праз пейкі час, паехаў у СССР, вучыўся там, пасьля працаваў на адказным навуковым становішчы ў Маскоўскім Унівэрсытэце, атрымліваючы часта партыйныя камандзіроўкі дзеля *„непосредственной обработкі“* масаў; шмат чаго чуў і бачыў. Праз пяць гадоў пабыту ў краіне, як ён кажа, „бюракратычна-вурадніцкага фэодалізму“, а прасьцей — *бальшавіцкага прыгону* — расчараваўся ў бальшавізьме зусім і ўцёк, каб „ратаваць сваю чалавечую годнасьць“.

Мэнке гаварыў, галоўным чынам, аб эканамічным жыцьці Савецкага Саюзу, але не абмінуў і палітычнага боку яго жыцьця або шалёнага сталінскага рэжыму, а таксама і чырвонага мілітарызму, грунтуючы свае вывады на вельмі цікавых прыкладах, часта браных з лейб-органу бальшавіцкае партыі „Правды“, значыцца: публічна сьцьверджаных. Раскажам пра некаторыя з іх са словаў лектара:

Шкла вырабляецца ў СССР больш, як да вялікай вайны, але ў вокнах сталічных дамоў і трамваяў пабітыя шыбы замяняюцца фанернымі дошчачкамі, бо шкло тоўстае ў палец і зялёнае, непразрыстае, бо, каб выпаўніць плян *фармальна,* у якім сказана аб шкле ў пераводзе яго на вагу (столькі і столькі сотняў тысяч тоннаў), шкло і фабрыкуецца сабе бюракратам - дырэктарам гэткага, напрыклад, гігантычнага заводу, як „Дагестанскіе Огні“, абы выгнаць ці нават перагнаць заказаную колькасьць тоннаў. Аб якасьці прадукцыі клопату мала: савецкі жыхар нідзе не падзенецца, возьме той манапольна-казённы прадукт, які абы-як вытвараецца кожнаю галінаю прамысловасьці. Сабекошт прадукцыі страшэнна высокі, бо ў сярэднім на кожных 100 работнікаў, беспасрэдных вытворцаў, у прамысловых прадпрыемствах занята каля 17-цёх бюровых працаўнікоў, што, пры концэнтрацыі вытвару ў вялікіх прадпрыемствах з некалькмі часам дзесяткамі тысяч работнікаў, стварае цэлую армію канцэлярскіх трутняў.

Вытвар ботаў таксама вышэйшы колькасьцю за даваенны, а людзі босыя ці абутыя сяк-так. Купленыя лектарам у камісыйным магазыне за 150 руб. боты, ў канцы 1932 году, праслужылі толькі 2 тыдні: гумовая падошва лопнула і папravіць ня было дзе. А ў „Правде“ няраз пісалася, што боты псаваліся нават і ў той самы дзень, калі былі куплены. Касьцюм, на савецкія варункі найлепшы, носіцца 6 месяцаў, а выглядае на 3 гады. Рэльсы з гарантыяй на 5 гадоў не праслужваюць і году. Цягнікі ня маюць добрага апалу — у вуглі высокі процант попельнасьці.

Распадзел прадуктаў першай неабходнасьці ідзе праз два апараты: дзяржаўны гандаль і коопэрацыю. Тут таксама, як і ў прамысловасьці, людзей часам больш за канцэлярскім сталом, як за прылаўкам. Замест „індустрыяльных“ тоннаў, тут плян даецца ў... ліку рублёў. У рэзультаце менскія магазыны ў 1931 г. завалены былі лямповым шклом на ікс тысяч рублёў. Каўказ—кнатамі, а Сыбір — лямпамі, але без кнатоў або бяз шкла да іх. Усюды хаос, сярод прыказчыкаў у крамах олімпійская роўнадушнасьць у адносінах да спажыўцоў: усё роўна 1 і 15 пэнсія бюракратычным савецкім апаратам атрымліваецца, аб конкурэнцыі ў савецкай прамысловасьці ці гандлі ня можа быць мовы, усюды дзяржаўна-партыйны манаполь.

Практыкуецца часам *падвышэньне заработнае платы* работнікам, але, ў параўнаньні з падвышэньнем цэнаў у той-жа час, — гэта хутчэй выглядае на *паніжэньне* платы.

Якасьць прадукцыі ніжэйшая шмат за даваенную, што можна бачыць хоць-бы з гэткага здарэньня:

На адным прадпрыемстве ўдарніку прызналі ў нагароду мэблі. Калі ён атрымаў старыя пацёртыя мэблі, дык падаў жалабу, што над ім насьмяхаюцца. Сьледзтва ўстанавіла аднак, што старыя мэблі прадпрыемства падарыла ўдарніку, купіўшы сабе мэблі новыя, якія былі горшымі за старыя.

Існаваньне пролетарыяту, у імя якога ўведзена бальшавіцкая дыктатура, галоднае.

Нацыянальная палітыка вядзецца Масквою так, што беларус павінен выжаброўваць сваю бульбу ў Ленінградзе, а украінец — свой хлеб у той-жа Маскве, а калі трэба украінцу збожжа на сяўбу, дык дастаць яго едзе ён мяшочнікам аж у Пскоў, дзе да вайны ніколі не ставала жыхаром свайго хлеба.

Работнік *прымацованы* да свайго прадпрыемства, а селянін да калгасу, як той прыгонны яго прашчур за часоў Кацярыны II.

Рэальная вартасьць заработнае платы (паёк і інш.) залежыць ня толькі ад таго, што чалавек вытварае, але і ад таго, у якой зоне ён пражывае—1-ай, 2-ой, 3-яй і г. д.

Вясною 1932 г. горад Барысаў пераведзены быў з 4 зоны ў 5-ю, што выклікала галодны бунт жыхароў, грабеж хлебных крамаў і раззбраеньне мясцовага ГПУ.

Кватэрнае пытаньне настолькі вострае, што кожная сям‘я лічыць ідэалам мець асобны пакой. Маці просіць доктара пакінуць хоць яшчэ на колькі дзён у бальніцы яе выздаравеўшае дзіця, бо жыве яна ў бараку, дзе набічкована 40 чалавек бяз розьніцы полу і цывільнага стану.

Ды ўсяго ў газэце і не апішаш, што расказаў за сваю больш як трохгадзінную лекцыю пакаяўшыся бальшавік.

Калі, стаўляючы яму пытаньне аб цяперашнім яго сьветаглядзе, адзін з маладых слухачоў хацеў даведацца, як ён глядзіць на жыцьцё іншых краёў, дык Мэнке, ня доўга думаючы адказаў, што з двух ліхаў ён выбірае меншае... дзеля таго і ўцёк, пасьля вялікіх прыгодаў, з бальшавіцкага пекла.

Аб прыгодах гэтых лектар дакляраваў расказаць іншым разам. *Х.*

# Каму гэта патрэбна?

У межах адрадзіўшайся Польшчы ўвайшло некалькі мільёнаў праваслаўных, з якіх амаль 95% прыпадае на беларусоў і ўкраінцаў. Адначасна цікава, што духавенства праваслаўнае зьяўляецца ў 90% расейскім. Яно і надалей лічыць сваім абавязкам, ня гледзячы на зусім новыя гістарычна-палітычныя абставіны жыцьця, „блюсти благонадежность“ сваіх пасомых з адначасным зашчэпліваньнем ім вернасьці вялікамаскоўскаму імпэр‘ялізму. Гэтая, атрыманая намі спадчына расейскай няволі разам з расейскай эміграцыяй у Польшчы накіроўвае ўсе свае высілкі на тое, каб спараліжаваць працэс культурнае і нацыянальнае абасобленасьці беларусоў і ўкраінцаў і іх штораз далейшы адыход ад „русскаго пня“.

Як гэта акцыя вялася і якімі мэтодамі, чытачы нашы ўжо ведаюць. Ведаюць таксама, што акцыю русыфікацыі царквы расейцы ўжо прайгралі на фронце ўкраінскім і добра сабе ўяўляюць, што хутка прыдзецца прайграць яе і на фронце беларускім. Што-ж рабіць? Трэба зьмяніць тактыку і паклікаць на расправу з беларусамі і ўкраінцамі грамадзянства польскае. Таму на парадак дня расейцы высоўваюць полёнізацыю царквы. Калі да гэтага часу расейцы аб полёнізацыі гаварылі вельмі неахвотна, нават варожа, то цяпер адразу выходзяць загады аб дазволе пропаведзяў у польскім языку там, дзе патрэбуе гэтага частка прыхаджан, ствараецца камісія для перакладу на польскі язык багаслужэньня, у Беластоку „праваслаўныя палякі“ выступаюць з дамаганьнем асобнае царквы і польскае пропаведзі, адразу скранулася з месца справа духоўных ліцэяў і духоўнага інтэрнату ў Варшаве і г. д.

Стаўшы на грунт полёнізацыі, расейцы прадбачаць, што гэткім спосабам можна будзе і надалей абясьсіліваць нацыянальнае самаазначэньне беларусоў і ўкраінцаў, а разам з гэтым апошнім будзе ўжо цяжэй бараніцца, бо ўсе іх выступленьні супроць полёнізацыі можна будзе лёгка закваліфікаваць, як выступленьні антыдзяржаўныя.

Трэба быць вельмі наіўным, каб думаць, што гэткім спосабам удасца расейцам затрымаць ход гістарычных падзеяў. Дзеля таго аднак, што пачатая расейцамі полёнізацыя царквы крые ў сабе паважную небясьпеку для царквы і ідэі братняга сужыцьця народаў Беларусі, Украіны і Польшчы, трэба да справы гэтай аднесьціся паважна і ў першую чаргу адказаць на пытаньне — каму полёнізацыя царквы патрэбна?

Для беларусоў і украінцаў справа полёнізацыі царквы па сваёй сутнасьці не зьяўляецца страшной. Нацыянальная сьведамасьць украінцаў сяньня ўжо настолькі адпорная, што нават поўная полёнізацыя іх цэркваў выклікала-бы толькі яшчэ большую адпорнасьць, з другога боку адцягнула бы іх ад царквы. У масах народных гэта выклікала-бы варожыя настроі адносна Дзяржавы. Бел. народныя масы магчыма менш сьведамы нацыянальна. Аднак і для іх польшчына была-бы не страшной. Справа ў тым, што масы нашыя, спробу ўвядзеньня польскае мовы ў царкву прынялі-б за ўвядзеньне ў царкву „польскае веры“, і хоць як ня сільны ўплывы чырвонага Усходу, консэрватызм народу нізашто не заменіць праваслаўя на „польскую веру“. Народныя масы адыйдуць толькі ад царквы, зьявіцца ў іх варожасьць адносна польскага грамадзянства. Навучаньне ў пачаткавых школах зьяўляецца для дзяцей і бацькоў абавязкам; школы гэтыя за 17 гадоў існаваньня далі сумныя рэзультаты. Прымус-жа ў рэлігійных пытаньнях дасьць яшчэ больш сумныя. Урэшце, яшчэ зусім нядаўна, расейцы заінсцэнізавалі ўвядзеньне новага стылю. І хоць гэта нічога супольнага з полёнізацыяй ня мае, усёж народныя масы рашуча адкінулі новы стыль, штучна была створана няпрыхільнасьць адносна Дзяржавы. Словам прыходзіцца сьцьвердзіць, што польшчына ў царкоўным жыцьці ня прымецца.

Добра разумеюць гэта і расейцы. Калі-ж яе і праводзяць, то выключна толькі з правакацыйнымі мэтамі. Ужо сяньня можна бачыць, як адна частка расейцаў полёнізацыю стараецца правесьці ў жыцьцё, а другая частка бье трывогу, што, дзякуючы украінцам і беларусам, палякі пачынаюць праводзіць полёнізацыю. Гэткім чынам расейцы з аднаго боку апранаюцца ў тогі абаронцаў праваслаўя, а адначасна з другога боку выклікаюць у масах варожасьць да Дзяржавы. Урэшце, прыпісваючы паўстаньне справы полёнізацыі царквы акцыям беларусізацыі і украінізацыі, гэтым самым стараюцца гэты акцыі здыскрэдытаваць у вачох масаў. „Русское Слово“ і „Наше Время“ (№ 97,99) усё гэна прапаведуюць публічна, а розныя „русскіе батюшки“ ды розныя расейскія арганізацыі, шырока апошнімі часамі закладаныя ў беларускіх мястэчках, пашыраюць сярод народных масаў. Загадываюцца пяяць польскія гімны, а сялянам такімі „русскими батюшками“ нашэптываць, што „гэтак хочуць палякі“.

Расейцы інсцэнізуюць беластоцкія выступленьні, і тая-ж расейская прэса робіць з гэтай прычыны розныя закіды палякам і украінцам. Словам, не адмовіўшыся і надалей ад параліжаваньня працэсу нацыянальнае і культурнае адасобленнасьці беларусоў і украінцаў, расейцы пры псмачы полёнізацыі царквы імкнуцца адным стрэлам забіць двух зайцаў: скампрамітаваць у вачох масаў, а затым неяк спыніць і беларускі і украінскі адраджэнскія рухі, з другога боку выклікаць у гэтых масах ненавісьць да Польшчы і сымпатыю, для абаронцаў „русской веры“, а гэтым самым і для маскоўшчыны.

Ясна і тут расейцы панясуць паражэньне. Аднак беларусы і украінцы павінны зарганізавацца і здэмаскаваць нягодную інтрыгу маскоўскіх палітыкаў, якая можа яшчэ больш адагнаць народ ад царквы і кінуць яго на жор бязбожніцтва і сэктанства. З другога боку польскае грамадзянства павінна памятаць, што полёнізацыя царквы, пачатая расейцамі дзеля стварэньня антаганізму між грамадзянствамі польскім, беларускім і украінскім, мае на мэце выключна інтарэсы „единой неделимой“. А вартасьць іх полёнізацыйных пачуцьцяў хіба найлепш з‘ілюстравала яшчэ зусім нядаўнае выступленьне некаторых герархаў Аўтокэфальнае Прав. Царквы, як „русских епископов на эмиграцыи“.

*Іван Карэцкі.*

# Праўны куток.

**Міхалу М.**, *Пастаўшчына.* Вы пытаецеся: колькі каштуе зацьверджаньне тэстамэнту, які тэстамэнт зацьвярджае суд, як хутка пасьля сьмерці спадкадаўцы трэба яго злажыць дзеля зацьверджаньня і наагул, якія цяпер у цывільных справах судовыя

аплаты?

У адказ на Вашыя пытаньні падаем наступнае: згодна з распараджэньнем Прэзыдэнта П. Р. з 24 кастрычніка 1934 г., абавязвае цяпер, пачынаючы ад 1 студзеня 1935 г., новы закон у справе судовых аплатаў.

Просьба аб зацьверджаньні тэстамэнту падлягае аплаце ў суме 20 зл., ня гледзячы на вялічыню маемасьці і яе вартасьці Кожны тэстамэнт, для зацьверджаньня і яго выкананьня, павінен быць зложаны ў Акружны Суд ў працягу аднаго году пасьля сьмерці спадкадаўцы. Асобы, якім запісаны тэстамэнт, і якія знаходзяцца заграніцай, могуць злажыць тэстамэнт для зацьверджаньня ў Суд у працягу 2 гадоў ад сьмерці спадкадаўцы. Нязложаны ў пададзеным тэрміне тэстамэнт Суд не зацьвердзіць і тэстамэнт будзе нявaжны. Толькі ў вынятковых выпадках, прыкладам, калі спадкаберца ня ведаў аб існаваньні тэстамэнту,—мае ён права злажыць у Суд скаргу ў працягу 10 гадоў ад дня сьмерці спадкадаўцы. Да скаргі гэтай, скіраванай у Суд з просьбай аб зацьверджаньні нязложанага ў тэрміне тэстамэнту, трэба далучыць арыгінал прыватнага тэстамэнту; калі-ж тэстамэнт напісаны і зацьверджаны натарусам, замест арыгіналу можна далучыць выпіску.

Новы закон аб судовых аплатах, у параўнаньні са старым, прыносіць пэўныя палёгкі. *Асноўная аплата* (wpis) ад скаргі (pozew) залежыць ад зьмешчанай у яе вартасьці і дзеліцца на *аплату адносную* і *сталую*. Аплата адносная выносіць:

1) 2 прац. ад вартасьці скаргі да 5.000 зл. (найменш 2 зл., прычым кожная пачатая сотня лічыцца за поўную). 2) Пры вартасьці скаргі да 50.000 зл.—100 зл. за першыя 5.000 зл. (2 прац.) і $1^1/_2\,\%$ ад надвыжкі.

Адносная аплата, бярэцца *поўнасьцю ад:*

1) скаргі, 2) узаемнай скаргі („powództwo wzajemne" або пара сейску „встречный иск"), 3) галоўнай інтэрвэнцыі, 4) апэляцыі, 5) ўзаемнай апэляцыі, 6) касацыі, 7) заявы ў справе ўзнаўленьня закончанай судовай справы, 8) заявы ў справе ўневажненьня прыгавору палюбоўнага суду.

*Палова* адноснай аплаты (найменш 2 зл.), бярэцца ад:

1) спраціву („sprzeciw) проці завочнага прыгавору суду, 2) скаргі ў трыбе наказваючага ці ўпамінаючага працэсу, 3) закідаў у наказваючым працэсе, 4) просьбы пачаць эгзэкуцыю, скіраванай у суд.

*Пятая* частка адноснай аплаты (найменш 2 зл.), бярэцца ад:

1) убочнай інтэрвэнцыі, 2) інцындэнтальнай скаргі.

*Дзесятая* частка асн. апл. (найменш 2 зл.), бярэцца ад: 1) просьбы ў справе забясьпечаньня маемасьці ці іншай рэчы, якая зьяўляецца прадметам судовага працэсу, 2) просьбы ў справе прызнаньня натарыяльнаму акту кляўзулі выканальнасьці.

Працантовыя стаўкі ў Акружным Судзе тыя самыя, з той толькі розьніцай, што найніжэйшая аплата выносіць замест 2 зл., як у гарадзкім судзе, 10 зл. Апрача асноўной аплаты, бяруцца яшчэ аплаты за даручэньне павестак і іншых судовых пісьмаў і дакумантаў. Даўней плацілася 80 гр. за кожную павестку, цяпер-жа *пятую частку* асноўной аплаты, ня менш аднак $2^1/_2$ зл. і ня больш 100 зл.

За кожны дакумант ці іншы доказ, далучаны да скаргі, просьбы ці заявы, плаціцца 50 гр

Да касацыйнай скаргі, зложанай у Найвышэйшы Суд проці прыгавору ці пастановы Акружнога Суду, далучаецца залог у суме 100 зл., а проці прыгавору ці пастановы Апэляцыйнага Суду — у суме 300 зл. Калі Найвышэйшы Суд ўневажніць у цэласьці або часткова прысуд Акружнога ці Апэляцыйнага Суду, залог зьвяртаецца старане, якая яго злажыла; у праціўным выпадку залог пераходзіць да дзяржаўнага скарбу.

Кожны, хто ня мае магчымасьці злажыць належных аплатаў, можа адначасна з скаргай або пасьля, прасіць Суд аб прызнаньні яму права беднасьці. Просьба гэтая не падлягае аплаце. Далучыць трэба да яе пасьведчаньне аб матэр'яльным стане. Ацэна гэтага пасьведчаньня і прызнаньне права беднасьці належыць выключна да Суду.

Асоба, якой прызнана права беднасьці, зьвальняецца ад усякіх судовых аплатаў і можа прасіць Суд вызначыць ёй бясплатнага адваката (obrońca z urzędu). Ад адмоўнай пастановы Суду ў справе прызнаньня права беднасьці можна адклікацца да другой інстанцыі.

## Палітыка ці гумарыстыка?

12-га г. м. адбыўся гадавы сход т. зв. Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Што сабой прадстаўляе гэты Камітэт, нашым чытачам ужо даўно ведама. Даволі сказаць, што замест таго, каб быць, згодна з рэгулямінам, рэпрэзэнтантам усіх беларускіх незалежніцкіх арганізацыяў, ён аддаўна зрабіўся экспозытурай хадэцыі. Мы ўжо аб гэтым няраз пісалі, а апошні сход яшчэ адзін раз яскрава сьцьвердзіў абаснаванасьць нашых нэгатыўных адносін да гэтае, здавалася-б, так патрэбнай і карыснай інстытуцыі.

Апанаваўшы Б.Н.К-т, хадэцыя з чыста ксяндзоўска-клерыкальным фанатызмам павяла на яго грунце рашучую барацьбу з рэшткамі іншых арганізацыяў, належачых да гэтуль т. ск. „з разгону" да яго складу. У барацьбе гэтай хадэцыя, як заўсёды, карыстаецца сваімі асаблівымі спосабамі ад найбольш нячэсных да найбольш .. сьмешных

Апошнімі часамі хадэцыя зазлавалася на свайго былога пястуна Ф. Ярэміча, якому відаць абрыдла ўжо скакаць пад яе дудку. Бяспасрэднай прычынай паслужыла соймавая прамова Ф. Ярэміча, з якой хадэцыя не салідарызавалася таму, што яна мусіць аказалася для яе за культурнай і за паважнай.

Прэзыдыюм Нац. Камітэту, у якім хадэкі мелі нязначную большасьць, карыстаючы з адсутнасьці „не-хадэцхіх" яго сяброў Манцэвіча і Багдановіча, выносяць пастанову, якой выражаецца несалідарнасьць Камітэту з прамовай пасла Ф. Ярэміча.

На агульным гадавым сходзе 12-га г. м., пры разглядзе справаздачы ўступаючага ўраду Нац. Камітэту, Ф. Ярэміч падымае гэтую справу і даказвае, што Нац. Кам. ня меў права з яго прамовай салідарызавацца ці не салідарызавацца. Паўстаўшая дыскусія сьведчыць аб поўнай някультурнасьці і палітычнай непісьменнасьці большасьці дзеячоў сходу. Рэзалюцыя В. Багдановіча аб удзяленьні абсолюторыюм уступаючаму ўраду з засьцярогай, што Нац. Кам. ёсьць рэпрэзэнтантам усіх бел. палітычных напрамкаў і дзеля гэтага ніякая партыя ня можа быць у ім маёрызавана, наперакор здароваму рассудку не ставіцца пад галасаваньне, а пераносіцца ў вольныя прапазыкі, як датычачая... праекту зьмены рэгуляміну Нац. Камітэту(!) Запраўды, як гавораць палякі, «co ma piernik do wiatraka?»

Большасьцю галасоў уступаючы ўрад атрымоўвае абсолюторыюм *без засьцярог, а за абсолюторыюм галасуюць... самі сябры ўраду!*

Пратэстуючы супроць ненармальнага вядзеньня сходу, Ф. Ярэміч, В. Багдановіч і М. Манцэвіч ад імя сваіх арганізацый адмаўляюцца ад прыйманьня ўдзелу ў выбарах новага ўраду. Старшынёй Нац. Камітэту выбіраецца хадэк Я. Пазьняк, ня гледзячы на тое, што з 27-мі прысутных збірае толькі 12 галасоў. У склад ураду праходзяць: знаны сваім «Новым Шляхам» Ул. Козлоўшчык, інж. Дубейкоўскі, які паводле таго-ж самага „Новага Шляху" гадуе ад 1919 году нац.-соцыялістычную ідэолёгію (цікава ці атрымала ўжо матуру), інж. Клімовіч і М. Шкялёнак. Выражаючыся дубовай мовай „Крыніцы" — поўная Станкевічава-Казлоўшчыцкая перамога.

Цікава, якія „путы каханьня" вяжуць хадэцыю з нац.-соцыялістамі?

Але вярнемся да сходу. Далей пастаноўлена адняць ад Ф. Ярэміча права рэпрэзэнтаваць Нац. К-т у Сойме, у выніку чаго апошні дэманстрацыйна пакідае сход, заяўляючы, што з Пазьнякамі супрацоўнічаць ня можна. Яшчэ перад гэтым пакінуў таксама сход, заяўляючы аб сваім выхадзе з Нац. К-ту, прадстаўнік Т-ва „Пчала" Манцэвіч, абражаны някультурным вядзеньнем сходу хадэцыяй.

З жалем трэба сьцьвердзіць, што Нацыянальны К-т, узурпуючы агульна-беларускае прадстаўніцтва, толькі компромітуе Беларусоў і пара ўжо, каб усе прыпадкова належачыя да яго не-хадэкі гэта зразумелі.

Такое вядзеньне сходу можна вытлумачыць або грамадзка-палітычнай недасьпеласьцю, або злоснай нетолеранцыяй, але як у адным, так і ў другім прыпадку сумнай была б нашая будучыня, твораная такімі людзьмі.

# Гаспадарчы аддзел.

### Калі і як сеяць Іванаўскае жыта (кустаўку) на зялёны корм.

Каб мець зялёны корм як найраней вясною, можна сеяць у пачатку і сярэдзіне чэрвеня Іванаўскае жыта, якое ў тым-жа годзе ў восені і ў наступным вясною дае добрыя ўкосы. Іванаўскае жыта на зялёны корм трэба сеяць чым гусьцей. Таксама карысна яго сеяць разам з вікай і іншымі расьлінамі як: гарох, авёс, ячмень, — дзякуючы чаму васеньні ўкос значна павялічваецца.

### Збірайце крапіву.

Крапіва мае ў сабе шмат расьліннага бялку і мінэральных складнікоў і таму яе вельмі карысна ўжываць, як дадатак да корму для маладняка. Дадатня ўплывае крапіва таксама і на носнасьць курэй, пры чым можна курам даваць і сьвежую, і высушаную. Таму той, хто хоча, каб куры нясьліся і ў зімовую пару, павінен ужо цяпер прыступіць да збіраньня крапівы і добра яе высушыць. Збіраць трэба т. зв. крапіву-жгучку, бо крапіва „сьляпая" ня мае ў сабе патрэбных дзеля гэтай мэты вартасьцяў.

### На якіх яйках трэба садзіць квахтуху.

З старых яек курняты кепска высіджваюцца. Найстарэйшымі яйкамі, якія яшчэ могуць быць ужытыя для наседкі гэта чатырнаццаціднёвыя або найбольш васімнаццаціднёвыя. Апрача часу, на якасьць яек для высіджваньня робяць уплывы яшчэ іншыя дзейнікі. Таму яйкі, прызначанныя для пасадкі, павінны адпаведным спосабам перахоўвацца. Найлепшым месцам для гэтых яек будзе такое, у якім тэмпэратура мае прыблізна ад 8 да 12°Ц. Апрача таго, яйкі трэба класьці бокам і што другі дзень пераварачваць.

Высіджваюцца кепска яйкі і тагды, калі іх кладзецца зашмат пад квахтуху.

Пад курыцу, узалежнасьці ад яе вялічыні, можна палажыць: ад 12 да 18 курыных, ад 4 да 5 гусіных і ад 8 да 12 качыных яек. Пад гуску ня болей 10 - 13 гусіных яек і столькі-ж сама пад качку — качыных.

### Хатнія сродкі для лячэньня жывёлы.

Калі ў нашага гаспадара хварэе жывёла, то ён у большасьці прыпадкаў ня ведае, як і чым памагчы ёй. Тымчасам на вёсцы пад рукою ёсьць шмат сродкаў, якія могуць быць ужываны, як лекі. Некаторыя з такіх сродкаў пастараемся тут і пералічыць.

I. *Ачышчае кішкі*:

1) Адвар льняных і канапляных зярнят, 2) льняны алей (3—4 шклянкі для коняў і кароў), 3) агурочны расол, 4) трава і цьвет аўрану (божы дар), 5) ягады і кара крушыны.

*II. Сродкі затрымліваючыя бягунку*:

1) Бялок з 2 яек, разьмешаны добра ў шклянцы малака (даецца што 2 гадзіны пры бягунцы ў парасят, целят, жарабят і наогул пры бягунцы ў кожнае жывёлы). 2) Клеік з льнянога насеньня (кварту на 1 раз коням і каровам). 3) Дубовая кара (парашок). Рагатай жывёле і коням па 10 грамаў.

*III. Сродкі выганяючыя глісты.*

1. Карнявішча папараці, (коням і каровам па 120 грамаў) разьмешанае з цестам, 2) піжма (палявая рабіна), 3) цытворная палынь, 4) часнок, 5) дзёгаць, 6) настой з хвойных пупышкаў.

### Займайце папар кармавымі травамі.

Усім ведама, як кепска ў нас корміцца жывёла ня толькі зімою, але і ў цёплую пару году. Прычына гэтага заключаецца ў тым, што пасьвішчаў у нашых сялян замала, а тыя што ёсьць, належным спосабам не выкарыстоўваюцца. Выхад з такога палажэньня наступны: 1) або палепшыць і належна выкарыстоўваць пасьвішчаў, 2) або прыкормліваць жывёлу ў хляве.

Што датычыцца другога пункту, то ён магчымы для зрэалізаваньня тады, калі нашы сяляне будуць сеяць дастатачную колькасьць травы на зялёны корм. Найлепшым месцам, дзе можна сеяць траву на зялёны корм, не зьмяншаючы плошчы для іншых расьлінаў, *гэта папар*, а найадпаведнейшымі травамі для пасеву на папарным кліне будзе *вікавая мешаніна.*

Віка ёсьць вельмі пажыўнаю і смачнаю для жывёлы расьлінай, але толькі калі яна маладая, бо адцьвіўшы яна сільна цьвярдзее і шмат траціць на пажыўнасьці. Дзеля гэтага касіць яе трэба перад цьветам, або нават і ў часе цьвету, але ніколі не пазьней.

Дзеля таго, каб мешанінай вікі можна было карыстацца даўжэйшы час, як зялёным кормам, трэба адразу не засяваць ёю ўвесь прызначаны кавалак поля, а часткамі праз 10—14 дзён. Пры такім пасеве адна частка можа скармлівацца, тагды як другая будзе расьці.

Мешанінаю вікі можна карыстацца да другое паловы ліпня. Далей папарнае поле займаць ня можа, бо трэба ўжо падгатаўляць яго да азімых пасеваў.

Склад вікавых мешанінаў на зялёны корм залежыць ад глебы. На глебах добрых, ураджайных можна віку сеяць з адным толькі аўсом або дадаючы яшчэ ячмень. У такім выпадку высяваецца на гэктар 120—130 кілёграмаў вікі і 30—35 кілёграмаў аўса. На глебах горшых, вікі трэба даваць меней, а зьменшаную яе колькасьць дапоўніць пялюшкай. На глебах цяжкіх ў мешаніны карысна ўводзіць бабок і чым глеба цяжэйшая, тым болей павінна быць у мешаніне бабку. На лёгкіх глебах бабку зусім не дадаецца і апрача таго зменшаецца колькасьць вікі, а на месца апошняе ўводзіцца пялюшка.

*М.*

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.